У нумары: З ПАЖОЎКЛЫХ КАРТАК | ЯК Я ЗАБІЎ РАСПУЦІНА | Чытачы пытаюць -„НІВА" адказвае

# Ніва


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 33 (494) | ГОД X | 15 ЖНІЎНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


ПЯТРО СУШКО

### НА ЧОЎНЕ ЎСПАМІНУ

Край юнацтва майго дзівоснага,
зноў плыву я тваімі вёснамі,
праплываю над тымі вязамі,
дзе не ўсе былі словы сказаны,
дзе ружовае сонца цёплае
уставала над белым поплавам.
Там мяне сустракае ветліва
незабыўнае, запаветнае,
мне насустрач бяжыць бярозкаю,
мільгаціць, бегучы, бярозтаю.
Застывае над самым беражкам,
Вецер косы ёй гладзіць беражна,
кожны лісцік пад ветрам — ходарам,
А над возерам — мора водару.
А над возерам неба ціхае.
Я на поўныя грудзі дыхаю...
З небасхілам, з бярозкай, з вязамі
непарыўнай любоўю звязаны.



НАД ВОЗЕРАМ.

Фота: Ул. Паўлючук

# ЗЯЛЁНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

Вёска Юшкаў Груд такая, як другія ў аколіцы — Баршчэва, Ціванюкі, Плянта, Аднога, Тайніца, Бахуры. Але ў Юшкавым Грудзе знаходзіцца грамадская рада, школа, пошта, новенькая крама, бібліятэка, усялякія пункты. Тут здаўна стаіць царква.

Усё гэта вырашыла аб цэнтральным значэнні Юшкавага Груда ў гэтым дробнавясковым наваколлі. Праўду кажучы, праўдзівы Юшкаў Груд далей, за рачулкаю — і з пошты або грамадскай рады трэба ісці добрых парусот метраў. Словам, існуе як бы два Юшкавых Грудоў: вясковы, за ручаінаю і «казённы», паабапал гасцінца ад мястэчка Міхалова да мястэчка Ялоўка. Гасцінец пакручаны, пагоркаваты — ён асцярожна абмінае дрыгвяністыя хмызнякі тапелістага возера Гарбач і ціванюкоўскія даліны. На пясчаным грудзе, дзе размясціўся той другі, «казённы» Юшкаў Груд, гасцінец — як кажуць — вінклем паварочвае ў кірунку Ялоўкі.

Адсюль усюды блізка.

Зрэшты, гасцінец ужо перастаў быць гасцінцам. Апошнім часам пабудавалі сюды прыгожую шашу. Выгодная шаша яшчэ не дайшла да Ялоўкі і не дойдзе ў бягучым годзе. Канчаецца яна ў прыбахуроўскім лесе, дзе працуе дарогабудаўнічая брыгада Васіля Кузьмы з Плянты. Будова шашы дае заробак мясцовым людзям, стварае сурагат прамысловасці ў юшкаўскай старонцы — маю на думцы механізаваны выраб дарогабудаўнічых матэрыялаў.

Услед за шашою, пакрай гарбачоўскай дрыгвы, пачалася сёлета будова завода для здабычы багатых пакладаў гарбачоўскай лячэбнай гразі-баравіны, якая так патрэбная рэўматалагічным санаторыям. Гэты завод будзе таксама прадукаваць брыкеты. Кошт будовы завода каля дваццаці мільёнаў злотых. Першую сваю прадукцыю дасць у гадах 1967—1968.

У сувязі з тым, шмат гаворыцца аб перспектывах пабудовы чыгункі ад станцыі Валілы. Хаця гэта справа далёкай будучыні, аднак такая гаворка наконт чыгункі сведчыць аб вялікім зразуменні важнасці камунікацыі і належнага транспарту, без чаго не можа быць гутаркі аб хуткім развіцці эканомікі. Шаша ўжо паказала сваю важнасць. Юшкаўскія людзі не скупяць намаганняў у розных дарожных чынах. Дарогі — гэта нервы цяперашняга свету, без іх робіцца душна. Яны з'яўляюцца тым асвяжаючым акном.

Мікалай Багнюк, сакратар грамадскай рады, гаварыў аб будове бруку ў вёсцы Рудня і аб будове дарогі з Бандароў да Шымкаў. Да Бандароў, ужо ад некалькіх год, курсуе аўтобус ПКС.

У размове найважнейшае пакідаюць наканец. Прывычка старая як свет. Пад канец маёй размовы з Мікалаем Багнюком даведаўся я, што на тэрыторыі Юшкаўскай грамадскай рады налічваецца 2 727 гектараў ворнай зямлі і амаль 1 700 гектараў сенажацяў — у тым ліку яшчэ не асвоеных каля дзвесце гектараў. Адбываюцца, можна сказаць, ужо адбыліся тут вялікія меліярацыйныя работы. Гаспадары юшкаўскіх вёсак маюць, як ніхто другі, шмат сена. Гэты факт адразу прыдае вялікае значэнне, перад усім, перспектывам развіцця гадоўлі. Мала такіх аколіц на Беласточчыне, дзе ёсць такія неаглядныя лугавыя абшары, пасярод якіх цячэ славутая Нарва.

У Багнюковым, так сказаць, кабінеце сядзелі аграном і аграмеліярант. Цяпер самае цікавае мог расказаць мне толькі ён, значыць, аграмеліярант. Ён, Міша Гайдучэня, скромны і прыветлівы хлопец з Бу-

(Працяг на стар. 4)



Канчаецца яна ў прыбахуроўскім лесе, дзе працуе дарогабудаўнічая брыгада Васіля Кузьмы з Плянты.

# ПРА АНДРЫЯНКІ

Мясцовасць гэтая, сядзіба ГРН, знаходзіцца на краі Бельскага павета па дарозе ў Сямяцічы. Пражывае тут дзве нацыянальнасці: беларусы і палякі. І хіба мала хто тут ведае, чаму так сталася. Проста жывуць адзін побач другога, жывуць дружна і працуюць, маюць свае радасці і клопаты. Няма тут святліцы, ані клуба, а нават адпаведнай школы. Але ёсць адна ўстанова грамадскага характару — грамадская бібліятэка з чытальняю.

Кіруе ёю Валянціна Каптэвіч. Засталі мы яе ў гарачы ліпеньскі дзень пры працы. Валя парадкавала і ўпісвала новыя кніжкі, прысланыя з павета.

— Летні перыяд, — гаворыць В. Каптэвіч, — заўсёды ў нас такі. Працы з чытачамі не вядзем, але адміністрацыйнай хапае. Ужо цяпер трэба рыхтавацца да асенне-зімовага перыяду.

Далей мы гаворым аб колькасці чытачоў, аб працы бібліятэкі. І трэба адзначыць, што тут яна з'яўляецца цэнтрам культурна-асветнага жыцця. 168 чыта-

(Працяг на стар. 5)




★

СЛЯДАМІ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

★

